Bialystok, den 23. August 1942
Nr. 22

NEUER WEG
Weissruthenische Wochenzeitung für den Bezirk Bialystok

PREIS 20 PF.
Цана 20 фнг.

# НОВАЯ ДАРОГА

Беларуская тыднёвая газэта на Беластоцкую Акругу

Verlag: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437 — Bankkonto Stadtsparkasse 700. Anzeigenpreise: z. Zt. ist die Preisliste 1 gültig.

Беласток
23-га жніўня 1942.

Адрас Рэдакцыі: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437—
Банкконто Гарадзкая Каса Ашчаднасьці 700
Цана абвестак паводле лісты цэнаў 1.

## Баі на Паўночным Каўказе

**Насуперач загаду Сталіна бальшавікі адступаюць.**

Выдатным для нямецкіх посьпехаў на ўсходзе зьяўляецца факт, што ад канца мінулага тыдня апэрацыі праходзяць ужо не на спадах Каўказу, але адбываюцца ўжо ў самых горах. Два тыдні таму быў ужо захоплены ў нямецкія рукі Краснаярск. Ён прадстаўляў сабой загароду перад самым масывам Каўказу. Вораг, магчыма, спадзяваўся яшчэ, сабраўшы ўцякаючыя з Кубані сілы, зарганізаваць нейкім чынам абарону. Але яму гэта не ўдалося — яго пляны былі зьнішчаны. Ваенныя дзеяньні праходзяць цяпер у глыбі Каўказу, што характэрна для ўсяе барацьбы пасьля пераходу Дону нямецкімі войскамі. Вораг, ня гледзячы на загад Сталіна, усьцяж адыходзіў, пакідаючы толькі тылавыя аддзелы, якія прыкрывалі ўцёкі, распачліва змагаючыся. Ачышчэньне абшару й адступленьне былі галоўнымі вехамі, якіх трымаліся саветы паміж Донам і Каўказам.

Цяпер палажэньне зьмянілася. Чым далей уваходзіць вораг углыб Каўказу, тым больш труднасьцяў ён мае ў горах. Але ў горах, ясна, значна лягчэй бараніцца, бо дарог, якія трэба ахоўваць, там наагул мала Калі на схілах Каўказу, які, як вядома, паволі ўздымаецца угару, яшчэ ёсьць шмат дарог, то чым вышэй, усё больш яны зьнікаюць. Застаецца, урэшце, толькі некалькі праходных даріг, якія наагул дазваляюць прайсьці праз горы. Гэта перадусім дзьве дарогі ў сярэдзіне гораў, адна — гэтакзваная **Асецінская ваенная дарога,** вядзе праз Марміесійскі праход у Кутаіс, горад на паўдзённым схіле Каўказу. Але больш знамянітай усё-ж зьяўляецца **Грузінская або Георгіеўская ваенная дарога,** якая праходзіць па ўсходняй мяжы цэнтральнага Каўказу каля Казбэку (вышынёй 5.000 м.), вядзе праз Крыжавы праход і злучае паўночнае Орджонікідзэ (колішні Владзікаўказ), гэтакзваную «уладарку Каўказу», з Тыфлісам на паўдні. Гэтая грузінская дарога была збудозана больш чым сто гадоў таму назад для падпоры царскіх войскаў у змаганьні з адважна ваюючымі каўказкімі горнымі народамі. Гэтая дарога цягнецца на 200 кілямэтраў. Яна падымаецца праз шматлікія павароты, тунэлі і масты на вышыню 2.300 мэтраў, каб пасьля хутка ападаць на поўдзень. Сама па сабе, дарога ў тэхнічных адносінах не зьяўляецца простай, а збудована з стратэгічнымі меркаваньнямі. Гэтыя пляны ўжо былі ў царскія часы і былі-б зрэалізаваны да канца саветамі з увагі на індустрыялізацыю Каўказкага абшару. Але да гэтага не дайшло. Яшчэ й сягоньня праходы праз сярэдзіну Каўказу магчымы толькі праз гэтыя дарогі.

Найвышэйшае камандаваньне Арміі сьцьвярджае цяпер таксама, што ў горах вораг стаўляе больш супраціў, які па сваёй заўзятасьці сільнейшы, чым у вапошніх тыднях. Гэта стане зразумелым, калі ўзяць пад увагу, што ў горах адкрываецца больш магчымасьцяў абароны.

З другога боку вораг змушаны прыкрываць адступленьне тых сілаў і важных матарыялаў, якія стаяць у партох Паўночнага Каўказу. Тут перадусім, відаць, важна ворагу **палягчыць эвакуацыю порту Наварасійска,** якая адбываецца ў паўдзённым напрамку. Наварасійск быў адным з найзначнейшых Чорнаморскіх партоў. Уладжаньні й запасы, якія там знаходзіліся, былі надзвычай вялікія. Каб змагчы хоць часьць іх уратаваць марской дарогай на поўдзень, і змушае ворага затрымліваць адступленьне. Толькі дзякуючы гэтай пэўнай ахове з боку магчыма правядзеньне акцыі ачышчэньня Наварасійска.

У той час, як наступаючыя на поўдзень нямецкія арміі ўжо знаходзяцца ў самым Каўказе, зьлева ад іх, у абшары паміж Манычам і ніжняй Волгай, разгортваецца прасьледаваньне ворага на ўсход. Тут распасьціраюцца стэпы, якія паволі пераходзяць у гэтакзваную нізіну Ніжняе Волгі. Гэты абшар называецца Калмыцкім стэпам. Тут знаходзіцца вельмі мала паселішчаў. У самай сталіцы Калмыкіі Элісьце, якая прадстаўляе сабой большую вёску, жыве ўсяго 8.000 жыхароў. Стэпы тут неўраджайныя. Нават жывёлагадоўля, з увагі на малавартаснасьць травы, агранічываецца толькі да гадоўлі авечак. Над стэпам пануе вельмі сухі, але надзвычай гарачы клімат. Воды тут салёныя. У гэты разьлеглы абшар прасоўваюцца цяпер нямецкія сілы супроць Волгі. Нямецкія войскі ўжо пакінулі далёка за сабой ланцуг узгор'яў Ергені і знаходзяцца ў чыста стэповай краіне.

На левым крыле гэтых прасьледуючых войскаў стаяць нямецкія й румынскія войскі, якія ўжо некалькі тыдняў пракладаюць дарогу да Ніжняе Волгі ў жорсткім змаганьні з савецкімі рэзэрвамі. Агульны напрамак наступленьня гэтых арміяў ідзе ўздоўж чыгункі Пралетарская—Сталінград. Вораг добра ведае значэньне гэтае жалезнае дарогі, якую нямецкія войскі абхапілі ў абцугі. Таму ён усімі сіламі імкнецца як мага даўжэй стрымліваць прасоўваньне гэтых арміяў. Але нічога з яго высілкаў ня выходзіць. Марш нямецкіх войскаў і тут ідзе нястрымана наперад. Трыкутнік, які твораць тут Дон, Саль і ўзвышша Ергені, стаўся сапраўднай магілай савецкіх танкаў, якія ў сутыку з нямецкімі танкамі ня вытрымалі націску.

Варожае ваеннае камандаваньне бачыць адзіную магчымасьць адцяжэньня поўнага ходу нямецкае афэнзывы на поўдні ў гэтых мясцох, якія аддалены ад пляцдармаў нямецкае афэнзывы на поўдні ад 400 да 1.200 кілямэтраў. Гэта, ясна, не сьвядомая, дабраахвотная пастанова саветаў. Але калі каля **Варонежа, Вязьмы і Ржэва,** над **Ільменскім возерам** і на **Волхаўскім фронце** яны прабуюць праводзіць контр-атакі, то гэтым самым ясна паказваюць нядольнасьць хутка перакінуць знаходзячыеся тут кінутыя дывізіі туды, дзе наступае вырашэньне. Да нядольнасьці савецкага кіраўніцтва і няпрыдатнасьці транспартнае сыстэмы, каб у як найхутчэйшым часе перакінуць мацнейшыя сілы на поўдзень, даходзіць яшчэ й немагчымасьць контр-атакаў у шырэйшым разьмеры на гэтых адрэзках фронту. Аб якім-небудзь уплыве контр-атакаў у гэтым абшары на ход ваенных апэрацыяў ня можа быць мовы. У вялікай адлегласьці ад гэтага абшару праходзяць з ўсёй сілай і выразнасьцю ваенныя апэрацыі, намечаныя нямецкім найвышэйшым камандаваньнем.

## ВАЙНА

**Нямецкая афэнзыва на поўдні ўсходняга фронту разгортваецца пасьпяхова далей. Баі адбываюцца на самым Каўказе. Нямецкія войскі здабылі заўзята баронены горад Славянская, на ўсход ад Керчанскага перашыйку. Далей здабыты горад Георгіеўская, на желазнадарожнай лініі Растоў—Баку. Гарыстая мясцовасьць дае ворагу большыя магчымасьці абароны. Але ня гледзячы на заўзятую абарону ворага, нямецкія войскі ўсё далей і далей пранікаюць у Каўказкі абшар. Супраціўленьне ворага мае на мэце таксама даць магчымасьць ачышчэньня Чорнаморскіх прыкаўказкіх партоў, перадусім Новарасійска. Гэтыя парты, аднак, бязупынна бамбардуюцца нямецкімі самалётамі.**

**Другое крыло нямецкіх войск ідзе ў напрамку Ніжняе Волгі і знаходзіцца ў стэпах Калмыкіі. Баі адбываюцца недалёка Сталінграду. Бальшавікі паносяць вялікія страты. Як было падана ў Надзвычайным Камунікаце, войскі пад камандаваньнем гэнэрала танкавых войскаў Паўлюса, падтрымліваныя лятунствам і процілятунскай артылерыяй, зьнішчылі 62 савецкую армію і моцныя часьці 1-й танкавай арміі. У гэтай зьніштажальнай бітве было захоплена 57.000 палонных, здабыта або зьнішчана 1000 танкаў і 750 гарматаў. Вораг панёс вялікія крывавыя страты. У вялікім загібе Дону ўсюды дасягнута рака. Праводзіцца ачышчэньне абшару ад групаў расьсеянага ворага. Ад 15 да 17 жніўня, паводле дасюлешніх дадзеных, захоплена тут 12.800 палонных, зьнішчана або здабыта 47 танкаў і 252 гарматы.**

**Усяго ад пачатку вясеньніх баёў, бітвы на Керчанскім паўвостраве да заканчэньня бітвы ў загібе Дону, нямецкія й саюзьніцкія войскі захапілі 1.044.741 палонных, здабылі або зьнішчылі 6.271 танкаў і 10.131 гарматаў усялякага роду. У гэтым-жа часе зьнішчана 4960 варожых самалётаў у паветраных баёх, 664 процілятунскай артылерыяй і 432 на зямлі.**

**Бальшавікі прабуюць адцяжыць паўдзённы фронт контр-атакамі, якія яны праводзяць каля Ржэва, Вязьмы й Варонежа. Але нічога гэта ім не дае, акрамя вялікіх крывавых стратаў. На гэтых адрэзках фронту наагул палажэньне амаль бяз зьмен.**

**Асабліва вялікія посьпехі асягнулі ў апошнім часе нямецкія падводныя лодкі. У мінулым тыдні затоплена 400.000 БРТ. караблеабыйма. Як падало Найвышэйшае Камандаваньне Арміі з 17.8.42, нямецкія падводныя лодкі затапілі ў Паўночным моры і перад узьбярэжжам Паўночнае й Ся-**

(працяг на 2-ой бачыне)

**Чорныя кашулі ў атацы на ўсходнім фронце.**



На здымку бачым удзел італьянскіх войскаў у баёх на ўсходзе: чорныя кашулі атакуюць савецкую жалезнадарожную станцыю.

# Беларускія грэбні й шчоткі

**У Беларусі была вялікая фабрыка грэбняў. Бальшавікі, уцякаючы, спалілі яе.** Калі нямецкая адміністрацыя праводзіла ачыстку развалінаў, у склепе знайшлі вялікія запасы цэлюлёзы. Гэта дало падставу для адбудовы фабрыкі. І гэта павялося! Машыны ўдалося дастаць з грузу. Пасьля рамонту яны былі пушчаны ў рух. І ізноў яны гудуць, і сьвішчуць, і шумяць ад раньня да цямна. Беларускія мужчыны й жанчыны працуюць ізноў у фабрыцы.

Пакуль з галялітняе масы выйдзе прыгожы й гладкі грэбень, ён мусіць прайсьці праз шмат рук. Цьвёрдая й крохкая маса спачатку мочыцца ў цёплай вадзе, каб зрабіць яе мяккай і гнуткай. Тады пласт рэжацца на большыя ці меншыя лустачкі, у залежнасьці ад таго, якой велічыні мае быць грэбень. І толькі тады ўжо яны апрацоўваюцца машынай, якая выразае жалабкі. Першы раз шырокі рад, а пасьля вузейшы. У такім выглядзе грабень ідзе ўжо на шліфоўку й лякіроўку.

Колы шліфяркі хутка круцяцца. Вада сьцякае бязупынна па іх выступах. Грэбені мусяць быць адзін у вадзін. Куды прыямней жаночыя рукі трымаюць грэбень, калі ён мае высокаякасны полыск. І вось грэбень гатовы — ён сьмяецца ўсімі сваімі зубамі і сьвядома вандруе ў склад, дзе разам з іншымі, малымі й вялікімі, простымі й узорнымі сябрамі чакае адпраўкі.

Ня гэтак гладка й мэханічна родзіцца загнуты аздобны грэбень для жанчын. Ён вымагае ўжо пэўнага роду творчасьці й праца над ім дае магчымасьць праявіць індывідуальныя здольнасьці майстра. Каб лісткам галяліту надаць патрэбнае закругленьне, яны трымаюцца спачатку на электрычнай грэлцы, тады прывязваюцца да выгнутага дрэва — і праз пару мінут грэбень ужо мае выгнутую сьпіну. Тады ён паліруецца й атрымлівае патрэбны колер і аздобу.

Грэбень і шчотка — гэта як дзьве родныя сястры. Аб шчотцы міжна сказаць толькі пару словаў.

Паняцьце «шчотка» вельмі шырокае. Бо ёсьць шчоткі да адзежы, галавы, вусоў, памазкі, для замятаньня пылу, спэцыяльныя шчоткі для тэхнічных мэтаў і маленькія шчотачкі для дагляданьня пальцаў.

Але ўсе яны вырабляюцца з аднае сыравіны: дрэва і шэрсьці або конскіх валосьсяў. І таму ўсе гэтыя віды шчотак вырабляюцца разам.

У Беларусі знаходзіцца адна з найбольшых фабрык шчотак на ўсю Усходнюю Эўропу. **Ня гледзячы на вайну й застой, яна ўсё з большым разгонам разгортвае сваю працу. У памяшчэньнях, дзе апрацоўваецца дрэва, кіпіць работа.** Пілы скавычуць. Вострыя нажы тнуць штукі дрэва і дошкі. Дрэва стогне, але нічога не памагае! З яго выходзяць пліткі, вялікія й малыя, рознае формы й выгляду.

Магутныя жалезныя рукі сьвідруюць у гэтых плітках адтуліны. Гэта ўсё адбываецца у нязвычайна хуткім тэмпе. Другая машына ўкладае шэрсьць або валосьсе, другое. Адтулінка за адтулінкай напаўняецца так хутка, што нельга гэта прадставіць.

Адваротны бок шчоткі ачышчаецца спэцыяльным апаратам, а тады ён паліруецца. Шчотка спраўджаецца — і ўжо тады можна яе пушчаць у сьвет на барацьбу з пылам і брудам.

Так або зусім падобна робяцца й усе іншыя шчоткі або памазкі. Машыны гэтак збудаваны, што ўсё робіцца з найменшай затратай часу. Машыны нямецкага паходжаньня. Паводле нямецкіх абразцоў бальшавікі збудавалі пасьля свае апараты. Але гэта былі толькі копіі, якія нічым не перавышалі арыгіналы.

Нямецкія машыны працуюць ізноў. Яны даюць заробак і хлеб многім беларусам і зьяўляюцца яшчэ аднэй цаглінкай у гаспадарчай адбудове Беларусі.

# ПЯЦІГОРСК

**Курорт у падножжа Эльбрусу.**

У папярэднім нумары «Новай Дарогі» мы пісалі аб здабыцьці нямецкімі войскамі Пяцігорска. Падаем кароткую зацемку аб гэтым горадзе. Пяцігорск налічвае 65.000 жыхароў і зьяўляецца найбольшым горадам спаміж іншых курортаў, якія тут знаходзяцца недалёка адзін другога. Для прыкладу, Кіславодзк мае толькі 60.000, Мінэральныя Воды — 40.000, а Эсэнтукі — 35.000 жыхароў.

Пяцігорск славіцца сваімі аздараўляючымі крыніцамі. Ужо ў 16 сталецьці была вядома гэтая гарачая крыніца, выцякаючая з высокай гары Машук. Недалёка ад гэтае пары на ваеннай дарозе, якая вядзе на Владзікаўказ (сягоньняшні Орджонікідзэ), расейцы залажылі ў 1780 г. маленькую крэпасьць. У 1803 г. тут быў заснаваны курорт, які хутка стаў вядомым ува ўсёй Расеі. У палове 19 сталецьця Пяцігорск («горад пяці гораў») з мейсца стаянкі войскаў ператварыўся ў выключна курортнае мейсца. У 1875 г. была пражана жалезнадарожная лінія з Растова ў Баку, якая праходзіла недалёка ад Пяцігорска, ад 1895 году адчынена чыгункавае адгаліненьне паміж станцыяй Мінэральныя Воды і Кіславодзкам, якое праходзіць праз Пяцігорск. Цяпер там курсуе электрычны цягнік.

З Пяцігорска, а асабліва з суседняга гораду Кіславодзка, адкрываецца прыгожы від на іх найвышэйшы масыў Эльбрус, які сягае 5.646 мэтраў вышыні. Тут знаходзяцца знамянітыя чырвоныя гранітныя скалы. Калі ўсходзіць сонца, яны пераліваюцца ружовымі колерамі на сьнежнай белі гор.

Прамысловасьць Пяцігорска невялікая, знаходзячыся ў багатай земляробскай мясьціне, горад мае толькі харчовую прамысловасьць, некалькі скураных, ткацкіх і мэблёвых фабрык. У апошнім часе была там заснавана фабрыка амуніцыі і варштаты рамонту самаходаў.

**Штурмовыя войскі займаюць савецкую жалезнадарожную станцыю.**



Вораг яшчэ заўзята бароніцца з-за разьбітых таварных цягнікоў і чыгункавых уладжаньняў. Штурмавыя аддзелы пранікаюць на станцыю, каб выбіць ворага.

# Антыбрытанскія выступленьні ў Эгіпце й Сырыі

Як даведваецца радыё Мондар каля Істамбулу, староньнік Англіі эгіпцянін Аббас Акад мусіў уцякаць як найхутчэй з Эгіпту, бо яму пагражалі забойствам эгіпецкія нацыяналісты. Яны лічылі яго сымпатыі да Англіі здрадай бацькаўшчыны. Акад уцёк у Картум, дзе ён знаходзіцца пад аховай брытанцаў. Гэты маленькі эпізод, як высьняе радыё Мондар, дае магчымасьць уявіць вялізнае напружаньне, якое запанавала паміж эгіпецкімі нацыяналістамі і акупацыйнымі ўладамі ў Каіры. Ня гледзячы на тэрор, англійцам не ўдалося ніяк здушыць эгіпецкую апазыцыю.

Падобнае палажэньне пануе і ў Сырыі, дзе штодзень узьнікаюць антыбрытанскія паўстаньні. У Алеппо насельніцтва напала на дом бурмістра, які выклікаў ненавісьць жыхароў сваімі сымпатыямі да Англіі. Ён мусіў уцякаць з гораду і вярнуўся толькі тады, калі войска навяло парадак у горадзе. Шмат нацыяналістаў у сувязі з гэтым арыштавана.

# Нямецкія налёты на Англію

Англійскае міністэрства авіяцыі й бясьпечнасьці паведамляе аб бомбавых налётах нямецкіх баявых сілаў на паўдзённую й паўдзённа-заходнюю Англію. Паведамляецца таксама аб артылерыйскай дзейнасьці на Дуврскім шляху. Нямецкія цяжкія батарэі абстрэльвалі англійскія пазыцыі ў Дуўры. Як падаюць камунікаты, бамбардыроўкі мелі вельмі жорсткі характар.

ЯДВІГІН Ш.

# БЯРОЗКА

Дажддаўся Лявон, што яго пацеха, Марыська, выцягнулася ўгару, як тая маладая, гладкая бярозка. Ад хлапцоў адбою ня было і, хоць сэрца крывёю абліваласяя, а пара падыйшла замуж аддаваць.

Справіў Лявін вясельле, як мае быць: каб у сэрцы дзіцячым на доўгія гады добрая памятка засталася і каб перад людзьмі сораму ня было. Але як прыйшлося расставацца з дачушкай, —сплакаўся бедны, як бабёр: быццам чула сэрца нешта нядобрае. Ён і кажа ёй на апошнім адвітаньні:

— Слухай, пацеха мая, цябе я толькі маю і адну табе толькі даю раду: калі цябе прыцісьне горкая доля, калі табе будзе вельмі цяжка жыць, што і змогі ня будзе вытрываць, ня жалься нікому, нікому, хіба знойдзеш такую спрыяючую душу, як спрыяла й верна была табе душа твайго бацькі; ня знойдзеш —ідзі ляпей у лес, выбяры, каторае табе спадабаецца дзерава, і яму аднаму, маё ты дзіцятка, душу сваю адкрывай, жаль свой вылівай.

. . . . . . . . . . . . . .

Прайшло нямала часу. Паехаў Лявон даведацца да дачкі. Выляцела Марыська з хаты, кінулася бацьку на калені; прыпала пасьля галоўкай да грудзей бацькавых, але ў скорасьці, як-бы засароміўшыся, адскочыла, спусьціла вочкі і стаіць, уся зьбялелая; толькі губкі дрыжаць...

Доўга Лявон моўчкі ўглядаўся на сваю пацеху, а пасьля памалу падыйшоў да яе і глухім, быццам не сваім голасам, стаў выпытваць:

— Цяжка?

— Ой, цяжка, татачка, — уздыхнуўшы, аказалася дачка.

— Жалілася?

— Жалілася, — вышаптала Марыська.

— Каму?

— Бярозцы.

— А балей?

— Не знайшла каму.

— Нясі сякеру, пакажы мне гэтае дзерава, — сказаў Лявон.

. . . . . . . . . . . . . .

Хістаючыся, як ад буры маладая бярозка, ішла наперадзе Марыся.

— Эй, татачка, — жалілася яна, — якая гэта была стройная бярозка, якая гладкая. Якія прыгожыя былі на ёй галінкі, а на галінках паўнюсенька зялёненькіх бліскучых лісточкаў . . .

Лявон маўчаў.

— . . . Татачка, што ёй зрабілася? Гэта-ж цяпер лета . . . Чаму яна счарнела? Чаму здрабнелі, пакорчыліся яе лісточкі? Татка?

Лявон маўчаў.

. . . Чаму жаўцеюць гэтыя лісточкі? Гэта-ж цяпер лета . . . Чаму яна счарнела . . . Чаму галінкі свае яна далоў апусьціла, быццам яны плачуць?

Не пасьпела слова скончыць Марыська, як цяжка грукнуў па дзераве абух . . . Як падстрэленая птушка, скокнула яна і схапіла за руку старога.

— Татачка, не чапай. Не чапай, родненькі мой, прасіла Марыся, — баліць... баліць . . .

Але Лявон, нічога ня кажучы, ізноў стукнуў абухом па дзераве: рэха не адазвалася — стук быў глухім, як-бы гэта не па дрэве, а па зямлі стукаў. Марыська стаяла воддаль, заламаўшы рукі і глядзела быццам на нешта вельмі страшнае, толькі з вачэй яе сыпаліся адна за аднэй сьлязінкі, як сыпаліся пажоўклыя лісточкі з здрыгануўшайся пад абухом бярэзіны. . . Лявон нагнуўся, абчасаў каля пня кару і, адагнуўшыся, з усяго маху запусьціў сякеру ў бярозу і, павярнуўшы тапарышча на бок, адшчапіў вялікую трэску. Дзерава заскрыпела, запішчэла, быццам стала жаліцца, як тое дзіця. . . З-пад Лявонавай сякеры шчэпкі ляцелі .. Але нядоўга яму прыйшлося працаваць: нагнуўся Лявон, глянуў на падсечанае месца, ткнуў туды тапарышчам і, адагнуўшыся, глыбока ўздыхнуў.

— Марыська, дзіцятка маё, — дрыжачым голасам пачаў Лявон, — бачыш? Гэта-ж тут усяго на палец абалоні. А там парахня, адна боль, гэта-ж твой жаль спарахніў гэтую бярозку, — бо ты доляй сваёй жалілася ёй. Дзерава і тое спужалася такое долі . . . Уміраe гэта бярозка, уміраe без пары, бо кожны раз, як ты прыходзіла жаліцца, ёй было штораз цяжэй, а ты, маё гаротнае дзіця, успомні,— ты тады мела часіны падобныя да шчасьця . . .

І Лявон, узяўшы рукамі галоўку свае пацехі, моцна прыцісьнуў да сябе, а Марыська, тулячыся да бацькавых грудзей, прашаптала:

— Татачка, а чаму-ж паміж людзей я не знайшла каму пажаліцца?

Лявон маўчаў.

